# КАНСПЭКТ

№ 3 (7) кастрычнік 2000г.

Незалежнае выданьне полацкіх студэнтаў




Ну вось і зноў мы сустрэліся з табой, Наш Чытач. Прайшло зусім мала часу, як ты ізноў трымаеш у рукох чарговы нумар "Канспэкту", можна сказаць, яшчэ цёпленькі. За месяц аніякіх значных зьменаў у грамадзкім жыцьці гораду і ўнівэру не адбылося. Хіба што прайшла чарговая атэстацыя ды пэўны час нашую ўвагу спрабавалі прыцягнуць нейкімі выбарамі. Але, з большага, якія могуць быць у нас выбары? Сьмех, дый толькі. Зараз, трохі скончыўшы аб палітыцы пяройдзем да Нас, любімых. Нумар, які ты маеш набыў некалькі новых рубрыкаў, якія, спадзяемся, застануцца нязьменнымі і не застануцца па-за тваёй увагай. У першую чаргу гэта тычыцца музычнага агляду. У гэтым нумары тваёй увазе, чытач, рэпрэзэнтуецца кароткая гісторыя гурта гуртоў "Бітлз". Прысутнічае ў гэтым нумары і кароткі агляд партатыўнай аўдыёапаратуры, такой як касэтныя і кампакт – дыскавыя плэеры. Быць можа, рубрыка "Крывічанка" знойдзе сваіх прыхільнікаў сярод прыгажэйшай паловы навучэнцаў ўнівэра. Так ці йнакш спадзяемся, што нумар выйшаў рознаплянавым – паглядзі абавязкова, быць можа гэта як раз тая інфармацыя, якая цікавіць цябе? Хто ведае? Таму шчыра жадаем табе прыемна правесьці час у кампаніі з "Канспэктам"!!!

Рэдакцыя

## У гэтым нумары чытайце:



# Вяртаньне ў мінуўшчыну

***24 – 25 чэрвеня бягучага году ў культурна – гістарычным жыцьці Беларусі адбылася падзея, роўнай па масштабах якой не было, бадай што ніколі. У першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага - старажытным Наваградку адбыўся Фэст Сярэднявечай Культуры. Асноўнай тэмай сьвята былі падзеі, зьвязаныя з сярэднявечным перыядам гісторыі Беларусі. Так, у 1314 годзе вялізнае войска крыжакаў падступілася пад муры Наваградзкага замка, але ўзяць горад ім не ўдалося. 25 чэрвеня 1999 г. старажытныя муры Наваградка яшчэ раз пабачылі рыцарскае войска. Каля 200 рыцараў зьехаліся з усёй Беларусі і замежжа на рэканструкцыю штурма Наваградка. Сярод вялікай колькасьці рыцарскіх клюбаў, якія бралі ўдзел у фэсьце быў ваярска – гістарычны клюб "Чорны Война" з Наваполацку.***

Сьвята складалася зь дзьвух частак – 24 чэрвеня адбылася сьвяточная праграма фэсту. На цэнтральным пляцы гораду выступала вялікая колькасьць калектываў, гуртоў і выканаўцаў, якія так ці йнакш займаліся адраджэньнем і рэканструкцыяй эўрапэйскай сярэднявечнай культуры. Гэта і вядомы менскі тэятар "Вольная Сцэна", і польскі фолкавы гурт "Open Folk", які грае старажытную ангельскую, брэтонскую і кельцкую музыку. Таксама на сьвяце было дужа дудароў, граньне якіх можна было пачуць у розных месцах горада. Увечары на плошчы адбыўся "Бугурт" – турнір, у якім рыцары падзяляюцца на дзьве групы і вальчаць паміж сабой. Відовішча скажуя вам яшчэ тое. Грае дуда, чуваць крыкі, лязгат зброі, нават магістар менскага ордэна "Сэрца Дракона", які камэнтаваў гэтую забаўку ледзь ўтрымаўся ад жаданьня скочыць да б'ючыхся каб разьмяць старыя косьці. На шчасьце параненых і забітых не было. Дапамагло і майстэрства фэхтаваньня і дасьпехі. Акрамя гэтага паміж усімі рыцарамі існавала дамова – не забывацца, што гэта ўсёж такі добрая імітацыя, а не сапраўдная валка, інакш без ахвяраў не абышлося б. У нядзелю 25 чэрвеня з самай раніцы ліў дождж. Схавацца куды небудзь у рыцарскім лягеры было цяжка, акрамя прамоклых намётаў нічога не было. Але на шчасьце бліжэй да 12 гадзін дождж сьціх, і падмоклае рыцэрства пачало шыхтавацца да смотру перад рэканструкцыяй штурму. Таксама вялізарнае ваярскае войска было падзелена на 3 групы: першая – абаронцы замка, другая – нападаючыя і трэцяя – аддзел рыцараў, якія мусілі прыйсьці на дапамогу абложаным. Пасьля некалькіх рэпэтыцыяў недзе а 13 гадзіне дзея пачалася. Гледачоў на валах і мурох было столькі, што не было бачна самога замка. Першы атрад крыжакаў падыйшоў да сьценаў замка, і пад прыкрыцьцём камнемётаў пачаў падымацца да мuroў. Схілы былі мокрыя і слізкія пасьля дажджу, і таму бедным



Урачыстае шэсьце па галоўнай плошчы.
Наваградак 24 чэрвеня 2000 года.

крыжакам пад'ём даўся цяжка. Нарэшце захопнікі дабраліся да муроў, але ня гледзячы на ўсе мужныя намаганьні дастаць замак ім ня ўдалося. Штурм сьценаў адбыўся яшчэ раз, пасьля таго, як зьнясіленыя крыжакі ў другі раз былі адкінутыя абаронцамі ў тыл ім ударыў аддзел літоўскага войска пад камандваньнем Давыда Гарадзенскага. Ня гледзячы на некалькі наступаў крыжакі здолелі перашыхтавацца да абароны, але менавіта ў гэты момант у тыл ім ударыла войска абаронцаў замка. Вялікая частка крыжакаў загінула, нешматлікім удалося уцекчы. Наваградак быў ўратаваны. Пасьля рэканструкцыі штурму афіцыйнае сьвята скончылася і ўдзельнікі пачалі раз'язджацца. Але нешматлікая частка рыцараў усё ж – такі засталася ў лягеры. І не дарма, бо ў начы арганізатары фэсту зрабілі для самых трывалых сапраўдны рыцарскі пір. Уявіце сабе – смажаныя парсючкі зь півам, сапраўдная сярэднявечная атмасфэра, беларуская мова і сьпевы – заплюшчваеш вочы і пераносішся ў тыя далёкія і слаўныя часіны Вялікага Княства Літоўскага, калі мужнасьць, адвага і шчырасьць шмат каштавалі для сапраўдных рыцараў.

Эх, што казаць. Фэст атрымаўся файны. Дзе яшчэ можна хоць на некалькі дзён перанесьціся ў сярэднявечча, як не на такіх сьвятах. Зьязджаць з Наваградка было як ніколі цяжка, асабліва калі ў цябе з гэтым горадам зьвязана так шмат цудоўных успамінаў. Наперадзе цэлы год працы, вучоба, надыходзіць восень. Усё гэта, зразумела, не сьхіляе да добрага настрою, але зараз можна жыць думкай і жаданьнем патрапіць у Наваградак яшчэ раз!

Сяржук Балай.

# Як сьвяткуе студэнт?



***Ужо амаль два месяцы вучоба не дае табе нармальна жыць і спакойна спаць. І хто яе толькі прыдумаў, гэтую самую вучобу. Але, з большага, наша сёньняшняя размова прысьвечана як раз не вучобе, а сьвяткаваньню самых разнастайных сьвятаў, якія толькі здараюцца ў нашым неспакойным жыцьці. Для сапраўднага студэнта няма аніякага значэньня – каляндарнае ці не каляндарнае сьята яму сьвяткаваць – галоўнае падстава. Таму ў актыве дасьведчанага студэнта заўсёды прыхаваная пара – тройка падзеяў, якія ў цяжкую хвіліну могуць сайсьці за сьвята. А зараз аб ўсім гэтым больш падрабязна.***

Самае галоўнае і выключнае сьвята студэнта – гэта Дзень Студэнта, які адзначаецца 17 лістапада кожнага году. Мы не будзем глыбока ўдавацца ў гісторыю гэтага сьвята, бо большасьць студэнтаў рэпрэзэнтуе яе па свойму. Спынімся непасрэдна на самім працэсе. З большага, кожны факультэт і кожная група дзейнічае па клясыч-наму ўзору. Сьвядомая большасьць групы, за выключэньнем "адшчэпенцаў" зьбіраецца на кватэры, альбо здымае рэстарацыю ці кавярню. Самыя папулярныя кропкі зараз гэта рэстарацыі "Дзьвіна", "Віцязь", "Верасы". Таксама попытам карыстаецца "Зімовы Сад" у спорткомплексе "Хімік" і сталоўка інтэрнату №2. Пасьля закупаецца пэўная колькасьць паліва (звычайна гарэлкі), у колькасьцях, мінімальна неабходных асобна ўзятаму сярэдне статыстычнаму студэнту, прычым гэтую колькасьць кожны факультэт разьлічвае зыходзячы са сваіх уласных мажлівасьцяў. Часамі на сьвята запрашаюць выкладчыкаў, каб выказаць сваю шчырую падзяку за іх нялёгкую працу. Але, як паказвае практыка, запрашаць іх справа не ўдзячная, толькі гарэлку пераводзіць ды глядзець потым на іх п'яныя твары. Адзіная карысьць з гэтага – падлавіць прэпа на якім небудзь цікавым момансе, і потым яго гэтым шантажыраваць. Але гэта таксама справа небясьпечная, выкладчык трапіцца цьвердалобы, ды і сябры на кафедры ў яго таксама ёсьць. Але, як кажуць – хто не рызыкуе, той потым ня п'е гарэлкі на сваіх провадах у войска. Так што спрабуй!!! Акрамя дня студэнта існуе шмат цікавых сьвятаў, такіх напрыклад, як Дзень Народзінаў, і калі ў цябе вялікая група то ты можаш не прасыхаць досыць доўгі час. Традыцыйна сьвяткуюцца сьвяты 8 сакавіка і Дзень Абаронцы Айчыны. Існуе таксама шэраг прафэсыйных сьвятаў, такіх як Дзень геадэзіста, Дзень хіміка, Дзень гісторыка, Дзень юрыста і г. д. Акрамя гэтага ёсьць і досыць экзатычныя сьвяты, адзначаемыя, як правіла абмежаванай купкай абазнаных адэптаў. Гэта можа быць Дзень узяцьця Бастыліі, які звычайна сьвяткуюць жыхары гэтага цудоўнага інтэрнату. Прасьцей за ўсё напэўна гісторыкам, бо на іх карысьць безьліч разнастайных гістарычных падзеяў, шчырымі прыхільнікамі якіх часамі становіцца вялікая колькасьць апошніх. Напрыклад чарговыя ўгодкі заснаваньня Беларускай Народнай Рэспублікі, ці гадавіна Бітвы пад Воршай, ці трэці этап рэйкавай вайны на тэрыторыі Беларусі. Знайшліся нават вычварэнцы, якія сьвяткавалі Дзень Незалежнасьці рэспублікі Беларусь, зацьверджаны прэзыдэнтам? Лукашэнка 3 ліпеня 1996 г. Але патугі гэных маньякаў не былі падтрыманыя большасьцю сьвядомых студэнтаў. Ёсьць жа і ў нас сьвятыні!



З большага са сьвятамі ўсё. Але гэта ня азначае, што колькасьць радасных падзеяў у нашым жыцьці абмяжоўваецца сьпісам, прыведзеным у нашым артыкуле. Зусім не. Ўсё залежыць толькі ад вашае фантазіі і зусім трохі ад вашых фінансавых мажлівасьцяў...

Сяржук Стахоўскі

# The Beatles First



**Салют, меламаны!**
**З гэтага нумару "Канспэкт" пачынае друкаваць новую рубрыку "што слухаем?". Як вы здагадаліся з назвы, тут будзе info аб музычным жыцьці нашага унівэру, гораду... плянэты.**
**Сёньня ў рубрыцы - расповяд пра найвядомейшы гурт у гісторыі – THE BEATLES. І гэта не дарма. Бітлы ўвесь час былі ПЕРШЫМІ, таму яны і ў нас ПЕРШЫЯ. Акрамя таго, 9 кастрычніка ўвесь сьвет сьвяткаваў 60 годдзе Джона Ленана.**

Пра гэты легендарны ансамбль напісана столькі, што немагчыма дадаць нешта істотнае. Таму мы ня будзем наноў вынаходзіць кола, а проста нагадаем колькі фактаў зь іх творчасьці.

Шлях да ўсім вядомых THE BEATLES быў досыць працяглым. Спачатку былі QUARRYMENN, SILVER BEATLES з Ленанам, Макартні, Саткліфам ды Пітам Бэстам. Потым быў адзін з гамбургзкіх клюбаў(1960г.), дзе хлопцы амаль за дарма працавалі па 8-10 гадзін у суткі. Там іх знайшоў Тоні Шэрыдан, які фактычна выцягнуў THE BEATLES на міжнародную сцэну. Пад час супрацоўніцтва з Шэрыданам гурт (ужо з ўдзелам Гарысана) запісаў альбом "Tony Sheridan & The Beatles", зь якога па зразумелых прычынах адносна аўтарскіх правоў Шэрыдана не прынята пачынаць бітлоўскую біяграфію. І вось, з 1961 іх справы пайшлі самастойна. У снежні THE BEATLES, як ім і належыць сталі квартэтам: зыйшоў Саткліф. На гэты час прыпадае зьяўленьне ў камандзе Рынга Стара (сапраўднае імя Рычард Старкі), які прыйшоў замест зьмененага па патрабаваньні гука-запісваючай кампаніі "Парлафон" Піта Бэста. Адсюль THE BEATLES пачалі свой шлях як усім вядомая "ліверпульская чацьвёрка". У сьнежні 1962 году выйшаў першы аўтарскі сінгл THE BEATLES пад назвай "Love me do", а ў сакавіку 1963 дэбютны альбом "Please please me". Кружэлка ўтрымлівала адразу тры міжнародных хіты, і к 1964 году "бітламанія" ахапіла ўсю плянэту, а "гурт усіх часоў і народаў" пачаў узыход да вяршыні дасюль не скоранай. Потым THE BEATLES зьняліся ў фільме "Вечар цяжкага дня" (1964), музыку да якога напісалі самі.

У 1965 і 1966 гадах THE BEATLES дасягнулі вяршыні з гістэрыяй захапленьня на канцэртах, непрытомнасьцю фанатак і даўкай каля стадыёнаў і канцэртных заляў. У гэты час гурт практычна адмовіўся ад вялікіх канцэртаў і прысьвяціў сваю далейшую творчасьць студыйнай працы. У чэрвені 1967 году выйшаў альбом "Sgt. Pepper's Lonely Hearts Club Band"("Клюб адзінокіх сэрцаў сяржанта Пэпера"), які даў штуршок для зьяўленьня ў рок-музыцы такіх жанраў як арт-рок і хард-рок. У гэтым жа годзе THE BEATLES здымаюцца яшчэ ў адным фільме "Чароўнае, таямнічае падарожжа". Праз два месяцы перапынку быў напісаны "White Album"(1968) – знакаміты "белы" альбом "Бітлз".

Апошнім значным творам "ліверпульскай чацьвёркі" стаў альбом 1969 году "Abbey Road", названы так у гонар лёнданскае вуліцы, дзе месьцяцца многія вядучыя ангельскія студыі. На гэты час канфлікты паміж чальцамі вялікага квартэту дасягнулі апагею (асабліва паміж Ленанам і Макартні), і на пачатку 1970 году THE BEATLES афіцыйна заявілі аб сваім распадзе.

Сымон Музыка

***P.S.Хутка ў амерыканскай турме "Атыка" адбудзецца паседжаньне камісіі па датэрміновым вызваленьні зьняволенага №38А136781, і ў выпадку станоўчага рашэньня забойца Джона Ленана можа выйсьці на волю 4 сьнежня гэтага года. За 4 дні да дваццатай гадавіны сьмерці Джона ад яго рукі. Але...***

***Нядаўна праз Інтэрнет быў распаўсюджаны ліст ех-маёра брытанкае спэцслужбы SAS (Secret Air Service), які пад псэўданімам Джон Мсьціўца паведамляе: "Джон Ленан зрабіў маё жыцьцё асэнсаваным, ён адкрыў мне вочы, даў нашаму пакаленьню веды аб якіх не падазравалі мае бацькі, - як вы лічыце, я калі-небудзь дарую злачынцу, адабраўшаму ў мяне Джона?! Дазволю, каб ён гуляў па зямлі, якую вызваліў Джон?! Мая вайсковая сьпецыяльнасьць – снайпер, я ваяваў на Фалклендах, прайшоў Афрыку і Паўночную Ірляндыю, я добра ведаю сваю справу. Марк Дэвід Чэпмэн ня зробіць і двух крокаў ад варотаў турмы..."***

***Рэдакцыя "Канспэкту"***

# Музыка У кішэні




Калі б мяне папрасілі некалькімі словамі пералічыць неабходныя для сапраўднага студэнта якасьці, я б напэўна ўзгадаў такія рысы, як, незалежнасьць, непрызнаньне агульнапрынятых аўтарытэтаў, ліберальнасьць і мабільнасьць. Так так, не зьдзіўляйцеся, мабільнасьць. Бо што трэба сапраўднаму студэнту, каб, напрыклад, сарвацца ў незаплянаваную вандроўку з сябрамі? Акрамя здаровага разгільдзяйства і авантурызму яшчэ і мабільнасьць па прынцыпу "Усё сваё нашу з сабой". Адным з атрыбутаў сучаснага студэнта, які атаесамляецца з гэтым разуменьнем мабільнасьці зьяўляецца плэер.

Менавіта гэтая невялікая па сваіх памерах рэч ёсьць неадрыўнай часткай амуніцыі сапраўднага студэнта ў любой сытуацыі – ад вандроўкі да заліку. вялікая колькасьць нашага брата абірае сваім адвечным сябрам касэтны ці кампакт-дыскавы плэер. Станоўчае цяжка пераацаніць. Пэўнай колькасьці навучэнцаў нашага слаўнага ПДУ некаторы час даводзіцца праводзіць у дарозе. У першую чаргу гэта датычыцца тых, хто жыве ў Полацку, і на занятків вымушаны ездзіць кожную раніцу ў перапоўненай "дзесятцы" ці "пяцёрцы". Думаю, што некаторыя з вас зараз пакутліва ўздыхнулі, узгадаўшы ўсе жахі нашых аўтобусаў. Тыя ж з нас, хто ня ездзіць перыядычна ў транспарце таксама трапляе ў сытуацыі, калі папросту неабходна неяк бавіць час, каб не было сумна – ці на перапынку, ці падчас лекцыі, – так ці йнакш, такія моманты бывалі ў жыцьці кожнага з нас, нават у першакурсьнікаў. Што ж рабіць, як выйсьці з гэтага няпростага становішча? Адказ напрошваецца сам сабой – набыць плэер і слухаць музыку ў тыя моманты, калі няма чаго рабіць, калі трэба прыўзьняць настрой, калі вы проста жадаеце адпачыць і ў астатнія моманты нашага няпростага і неспакойнага жыцьця.




Зараз колькі словаў пра прадмет нашай сёньняшняй размовы. Па першае, плэеры бываюць чатырох розных тыпаў – касэтныя, якія праігрываюць музыку з кампакт касэты, кампакт дыскавыя, мінідыскавыя і MP 3. Бадай што самыя распаўсюджаныя і даступныя – гэта касэтныя плэеры. Вельмі часта такія плэеры камбінуюцца з радыёпрымачамі. Тыя ў сваю чаргу бываюць аналагавыя і лічбавыя. Коштавая катэгорыя такіх саўнд-машынак пачынаецца недзе ад $20 за простыя апарацікі з меха-нічным кіраваньнем і мінімумам фун-кцый да супэрпляскатых мэталёвых "монстраў" з процьмай функцыяў, аўтапошукам, пультам кіра-ваньня і лічбавым цюнэрам за $150 – $200. Часамі якасьць гуку такіх уокманаў адпавядае характарыстыкам стацыянарных дзьвухкасэтнікаў. Самымі распаў-сюджанымі фірмамі – вытворцамі тут зьяўляюцца AIWA, SONY, PANASONIC, PHILIPS, TOMSON. Самымі лепшымі тут, бадай, зьяўляюцца плэеры SONY і PANASONIC. Першая фірма увогульле зьяўляецца вынаходнікам плэера – славутыя ўокманы SONY слухае ўвесь свет. PANASONIC традыцыйна вырабляе высокаякасныя апараты.

Наступнны тып - CD плэеры. Тут і кошт вышэй, меней чым за 50 сувэрэнных амерыканскіх рублікаў нават і спадзявацца няма чаго, і якасьць гуку значна вышэйшая. Акрамя гэтага, CD плэер мае процьму разнастайных функцыяў, большасьць якіх нават і не сьнілася звычайным касэтнікам. Гэта і праграмаваньне кампазыцыяў і выпадковае прайграваньне і практычна імгненнае пераскокваньне з трэка на трэк. Ёсьць функцыя HOLD, якая блякуе клявішы кіраваньня апарата. Акрамя гэтага, адной з галоўных функцыяў зьяўляецца антышок. Гэтая "прымочка" дазваляе трэсьці аппарат, круціць у любым накірунку, нават біць (толькі ня вельмі моцна) пры гэтым лазер ані воднага раза не саб'ецца з трэка і будзе праігрываць нармальна. Самы даступны на маю думку плэер, які мае антышок, узмацненьне басоў, HOLD, сэткавы адаптар і слухаўкі гэта PANASONIC SL 210, які каштуе недзе 80 – 85 баксаў. Эстэцтвуючым піжонам зь поўным партманэ можна параіць выкшталцоныя саўнд-машынкі ў вагавай катэгорыі $100 – $180. Пасьля ста даляраў контуры апараціка рэзка закругляюцца, памеры зьмяньшаюцца, сам плэер набывае пульт кіраваньня. Канструктары вынаходзяць новыя схемы сілкаваньня, дазваляючы плэеру працаваць ад аднога камплекта батарэяў па 30 – 40 гадзін. Самае тое, здаецца, для "прадзьвінутага" модніка, для якога стыль і функцыянальнасьць - гэта галоўнае...

Працяг будзе.

Сяржук Войніч

# О пані МОДА!



Няўжо гэта не цуд? — мы, дзяўчаты, зноў можам задаволіць адвечную цягу да раскошы! Так, так, усё бліскучае — абавязковы атрыбут сеньняшняй моды. Сукенкі і абутак нібыта вылітыя з золата, маленькія топы пакрываюцца срэбнымі пласьцінкамі і пайеткамі, пуловеры вяжуцца зь ніткак з дадаткам люрэкса, а спадніцы расшываюцца бісэрам. Новы стыль пасуе ўсім бяз выключэньня, але, канешне, неабходна ведаць меру. Звычайна, каб аздобіць свой гардэроб, дастаткова аднаго бліскучага дапаўненьня. Але ня трэба забываць, што зараз актуальная і джынсавая вопратка. Нават той, у каго практычна няма часу, каб шыць, не павінен адмаўляцца ад новага стылю. Любімыя старыя джынсы, пакарочаныя да даўжыні ў тры чвэрці і ўпрыгожаныя па ніжнім краі стракатай стужачкай, імгненна стануць новамоднай рэччу. Маладыя дзяўчаты да ўсяго могуць прыбраць пас джынсаў, агаліўшы такім чынам пупок, - ці ж гэта не сэксуальна? А



самыя сьмелыя могуць скарыстаць бахраму і вышыўку расьліннага характару. Дарэчы з таго самага джынсу можна пашыць сабе і сумку, і капялюш. А калі ў якой небудзь краме г. Наваполацка знойдзецца джынсавы абутак, то на чарговай вечарыне сярод сяброў Вы будзеце зоркай.

Спадзяюся, што пасьля гэткага экскурсу ў сьвет сучаснае моды Вашыя погляды на вопратку зьменяцца калі не карэнным чынам, то, прынамсі, Вы зможаце перагледзець свой гардэроб ў новым асьпекце. Посьпехаў у экспэрымэнтах!

**Працяг будзе.**

Натальля Муляронак.

# СТУДЭНЦКІ ІНТЭРНЭТ

Калі хто з вашых знаёмых кажа, што ведае INTERNET, ня верце - гэта хлусьня - увесь INTERNET ведаць проста не магчыма, нават знайсьці там патрэбную для сябе інфармацыю бывае пад час вельмі цяжка. Менавіта для гэтага існуюць пошукавыя сэрверы, дзе праз ключавое слова можна знайсьці ў INTERNETе адрас патрэбнага вам сайту, на якім знаходзіцца зацікавіўшая вас інфармацыя. Па ўсім сьвеце існуюць некалькі дзясяткаў тысяч пашуковых сэрвераў, для карыстаньня якімі пажадана добрае валоданьне замежнымі мовамі. Ну, а калі ведаў не хапае, можна абыйсьціся і бязь іх, але на пошук неабходнай інфармацыі вы згубіце значна больш часу. Нажаль, у Беларусі пакуль няма добрага "пашукавіка". А што тычыцца расейскіх іх шмат, але калі вы шукаеце інфармацыю, напрыклад, з замежных вытокаў, дык лепш карыстацца замежнымі пашуковымі сэрверамі. У гэтым сьпісе адрасы самых вядомых расейскіх й замежных «пашукавікоў».(глядзі малюнак 1.) Механізм працы на пашуковых сэрверах вельмі просты:

**1.**Вы ўваходзіце на сэрвер.

**2.**У спэцыяльным акенцы пішаце ключавое слова, ў адпаведнасьці зь якім й будзе распачаты пошук неабходнай Вам інфармацыі.

**3.** На працягу ўсяго пошуку на манітор вашага кампутару выводзіцца сьпіс знойдзеных сэрверам сайтаў,на якіх можа знаходзіцца патрэбная вам інфармацыя, зазвычай сьпіс перавышае пару тысячаў адзінак, зь якіх вы, паважаны карыстальнік, і выбіраеце неабходную.

www.Yandex.ru
www.Rambler.ru
www.Altavista.com
www.Yahoo!com
www.HOTBOT.com

Для эканоміі часу карыстальніка на пошукавых сэрверах усталяваны фільтры гэта спэцыяльныя праграмы, якія значна дазваляюць звужаць кола пошуку. Дарэчы, карыстацца паслугамі "пашукавікоў" здолее нават самы апошні "чайнік", - просты інтэрфейс і нескладаная сыстэма кіраваньня гарантуе насьпяховае карыстаньне рэсурсамі "сусьветнага сецева".

Бамелкаў Андрэй




Рэдакцыйная Рада Незалежнага маладзёвага выданьня "Канспэкт" правяла апытаньне студэнтаў Полацкага Дзяржаўнага Унівэрсытэта, у якім было прапанавана адказаць на наступныя пытаньні:

1. Ці маеце вы доступ да Internet.
2. Як доўга вы працуеце ў Internet.
3. Якія вашыя самыя любімыя сайты.
4. Як вы лічыце, якія сайты карысныя для студэнта.

Пад час апросу высьветлілася, што большая палова апытаных студэнтаў ня толькі не мае доступу да інтэрнэту, але і не мае доступу да кампутара ўвогуле. Сумна. Вельмі Сумна.

А вось адказы тых, каму ў свой час пашчасьціла атрымаць доступ да ЛВС:

**Зьміцер 24 гады, асьпірант.**
Доступ да Internety маю ўжо каля году, любімыя сайты :
Anekdot.ru ; citycat; ну і яшчэ шмат іншых, адразу ўсе нават і не ўзгадаеш…
А студэнтам, на маю думку, будзе карысны сайт – Student.ru, там вельмі шмат чаго цікавага, пачынаючы ад рэфератаў, амаль на любую тэму і сканчваючы ледзь не курсавымі працамі.

**Сяржук 22 гады, студэнт.**
Доступу да Internety зараз ня маю, бо зараз яго няма ва ўсім ПДУ.
Любімыя сайты: ULTRAXXX.com; crossbow.ru; dranici.com.
Пашуковыя сэрверы, на якіх можна знайсьці інфармацыю прысьвечаную пытаньням гісторыі, культуры, літэратуры і г.д.

**Віталь 19 год, студэнт.**
На дадзены момант не маю, хіба што на пошце ў Internet-cofee. Дзесьці каля году.
Любімыя сайты: www.culichki.ru; www.bachock.ru
Для студэнта, на маю думку, быў бы карысным любы сайт з Халявай!

Так што, мілыя мае хакеры, юзэры ды чайнікі, шукайце, знаходзьце, скачвайце й чытайце!

***Посьпехаў вам!***



# РЭКЛЯМА АБВЕСТКІ ВІНШАВАНЬНІ

**Чытач!**

**Пішы да нас, пішы, якія рубрыкі ты хацеў бы бачыць ў нашай газэце.**

**Інфармацыю аб якіх сваіх кумірах ты пажадаеш бачыць на “Музычнай старонцы”?**

---

**Выйшаў новы альбом NRM “Тры Чарапахі”. Адбылася яго прэзэнтацыя ў Менску, а зараз музыкі робяць тур па гарадох Беларусі ў падтрымку альбому.**

**Можа й да нас заедуць.**

---

**Хутка ў Менску адбудзецца першы на Беларусі канцэрт DEEP PURPLE.**

**Калі вы паважаеце клясыку року ды маеце грошы на квіток(ад 25 да 150 у.а.), Абавязкова зьезьдзіце – такое бывае раз ў жыцьці.**

**Аматар добрай музыкі.**

---

**Анархі Наваполацку, адгукніцеся! Я ведаю вы ёсьць!**

---

**Стах, сёньня споўнілася 22 гады твайму першаму глытку паветра. На нашых вачах ты стаў старэй яшчэ на год, а значыць яшчэ мудрэй і сталей.**

**Шчасьця, каханьня.**

**Сябры.**

# 3 жыцьця студэнта анекдоты



Сядзіць генэрал на беразе возера з вудай, ловіць рыбу. Генэрал пры поўным парадзе – кіцель, штаны з лампасамі, фуражка. Стаіць страшная спёка, з генэрала коціцца пот, ён кожную хвіліну дастае хустачку, выцірае лысіну і адганяе мух. З самай раніцы ані воднай паклёўкі, і генэрал сумна глядзіць на нерухомы паплавок. Раптам зь нябёсаў раздаецца голас: “Што? Хрэн загадаеш?”



Роўна а пятай гадзіне раніцы жонка прачнулася, ціха пайшла ў кладоўку, абліла кіслатой лескі і паплаўкі, зламала фірмовыя вуды “Бальтзэр”, разьбіла малатком японскія катушкі, парэзала гумавыя боты і выкінула пляцак з гаўбца. Пасьля гэтага спакойна легла да мужа ў ложак і нежна даткнулася шчакой да яго пляча. Жыць ёй заставалася меней гадзіны…



Запіс ў дзёньніку студэнта – 3 раніцы трасуцца рукі з пахмельля. Пачаў апранаць кашулю – адляцелі гузікі. Ўзяўся за сумку – адвалілася ручка. Баюся ісьці ў туалет…



Адзін мужык, вырашыўшы праверыць правільнасьць прымаўкі “Ёсьць яшчэ порах у парахаўніцах” пачаў рэгулярна дадаваць сабе ў ежу замест солі порах. Заўважыўшы паляпшэньне свайго здароў’я ён працягваў ужываць гэты прадукт. Ён пражыў роўна 110 год, пакінуўшы пасьля сябе 10 дзяцей, 28 унукаў, 44 праўнукаі пяціметровую варонку на месцы крэматорыя…



Кампанія “Крайслер” дзеля экспэрымэнту ўсталявала так званыя чорныя скрыні на апошнюю мадэль “Гранд Чэрокі”, якія запісвалі апошнія словы кіроўцы перад аварыяй. Праз год былі сабраныя вынікі. Што характэрна, у 67, 4% выпадкаў аварыяў на тэрыторыі ЗША апошнімі словамі кіроўцы быў крык Oh shit!!! На тэрыторыі СНД ў 99,9% апошнія словы кіроўцы былі такія – Прыкалісь, братва, як я магу…!!!

**Чытайце ў наступным нумары**

- Інтэрв”ю з нашымі «Амэрыканцамі»
- Расповяд аб канцэрце «Deep Purple» ў Менску
- Інфармацыйны блёк да Дня Студэнта

Кантактная адрэса: Наваполацак-6,
п/с 24, тэл/fax 55-32-22
E-mail:bamelc@usiaslau.lingvo.vitebsk.by

*Канспэктавалі:*

Заснавальнікі :Андрусь Храпавіцкі,Віталь Броўка. Рэдакцыйная Рада: Андрэй Беллерт, Сяржук Балай, Валік Мажэйка, Павел Дзянісёнак. Нумар выдадзены пры тэхнічнай дапамозе ГАКАІ«УсяславЧарадзей».

Выдаецца на правох рукапісу. ***Наклад 299 асобнікаў***